• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

9 жніўня 1996 г. пятніца, № 199 (23002)




# ЗВЯЗДА

**ПЕРШАЕ «СВАБОДНАЕ ПЛАВАННЕ» БЕЛАРУСКІХ АЛІМПІЙЦАЎ**

**«Дэбют нашай нацыянальнай алімпійскай каманды ўпісаў яркія старонкі ў спартыўную алімпійскую гісторыю маладой беларускай дзяржавы. Гэты поспех трэба развіваць. Няхай ваш гераізм, ваша спартыўная праца на міжнароднай арэне стане лепшым прыкладам для ўсёй беларускай моладзі. Прыкладам умацавання аўтарытэту нашай Радзімы». Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на праведзенай 7 жніўня ва ўрадавай рэзідэнцыі «Заслаўе» сустрэчы з алімпійцамі, якія вярнуліся на беларускую зямлю.**

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што месяц таму мы ўпершыню з хваляваннем праводзілі ў Атланту самастойную нацыянальную каманду, якая першы раз адпраўлялася на Алімпійскія гульні пад сцягам беларускай суверэннай дзяржавы. Уся грамадскасць краіны перажывала за сваіх алімпійцаў: радавалася іх поспехам, засмучалася няўдачам, ганарылася перамогамі, адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## Старэйшая беларуская газета «Звязда» сёння ўступае ў 80-ы, юбілейны год свайго існавання

**Для калектыву рэдакцыі, аўтарскага актыву газеты гэты год будзе своеасаблівай справаздачай перад чытачамі. Экскурс у гістарычнае мінулае, сённяшні дзень з яго турботамі, шматлікія сустрэчы з тымі, дзеля каго і робіцца газета, — гэта толькі маленькая частка нашых задум. Журналісты газеты разам з прадстаўнікамі абласных, гарадскіх і раённых улад краіны правядуць шэраг «выязных прыёмных «Звязды».**

**Мэта іх — дапамога простаму чалавеку ў вырашэнні на месцы канкрэтных праблем, якія яго хвалююць.**

**Першая такая выязная «прыёмная» будзе працаваць сёння ў Навагрудку і ў калгасе «Звязда» гэтага раёна.**

*УРАДЖАЙ-96*

**На большай частцы Мінскай вобласці зноў прайшлі дажджы. Але ж збожжа паступае ў дзяржаўныя засекі**

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванню Мінскага аблвыканкома, на працягу некалькіх дзён на большай частцы вобласці ішлі дажджы. Такім чынам, узніклі часовыя праблемы з уборкай ураджаю. Але гаспадаркі працягваюць здаваць збожжа: паводле апошніх даных, яго ўжо паступіла на хлебакамбінаты 63.724 тоны. Сярод раёнаў лідзіруюць Старадарожскі — 5174 тоны (45 працэнтаў ад плана), Слуцкі — 8653 (28 працэнтаў) і Капыльскі — 7335 (25 працэнтаў). У Мінскай вобласці зараз сабралі зернебабовыя амаль з чацвёртай часткі пасеяных плошчаў — 124,6 тысячы гектараў. Намалочана 308,6 тысячы тон збожжа з даволі неблагой ураджайнасцю — 25,4 цэнтнера з гектара.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***РАБОТНІКАМ БУДАЎНІЧАГА КОМПЛЕКСУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ***

Дарагія таварышы!

Прыміце мае самыя сардэчныя віншаванні з нагоды вашага прафесіянальнага свята — Дня будаўніка!

Не выпадкова ў народзе кажуць: на прафесіі будаўніка зямля трымаецца. Вашым талентам, высокім прафесіянальным майстэрствам і ўпартай працай з попелу, пажарышчаў, з развалін адроджана ў пасляваенныя гады наша непакорная Беларусь.

Вы ўпрыгожылі беларускую зямлю новымі гарадамі, узвялі унікальныя прадпрыемствы, адчынілі дзверы соцень школ, клубаў, праклалі па багнах дарогі, падарылі шчасце многім тысячам сем'яў навасельцаў. Ваша ганаровая, у вышэйшай ступені гуманная і паважаная ўсімі прафесія, гэтак жа як прафесія і праца настаўніка, урача і хлебароба, з'яўляецца сапраўды вечнай. Яна існуе і будзе існаваць столькі, колькі жыве і будзе жыць чалавецтва. Менавіта ў гэтым заключаецца глыбінны змест і жыццесцвярджальная сіла будаўніка, якая заўсёды нясе людзям шчасце і дабро. І з гэтай ганаровай і адказнай місіяй будаўнікі Беларусі, нягледзячы на складанасць часу, спраўляюцца паспяхова. Дзякуй Вам за гэта! Няхай у вашы сем'і ў гэты святочны дзень прыйдуць надзея і радасць, хатняя ўтульнасць, сардэчнасць і дабрыня. Са святам, дарагія будаўнікі!

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКА.**



*СУСТРЭЧЫ*

## На гэтай зямельцы ўсе мы — не госці...

### Газета «Звязда» — у калгасе «Звязда»

**Помнікі любога кшталту ўражваюць сваёй грунтоўнасцю. Упэўненасцю. Як бы сцвярджаючы старую ісціну: усё праходзіць. Мы ж, адчуваючы сваю мізэрнасць перад Сусветам, не задумваемся над тым, што гэтыя помнікі-сімвалы існуюць дзякуючы чалавеку. Дзякуючы нашым думкам і высілкам. Дуб Адама Міцкевіча — таксама помнік. Паводле паданняў, менавіта каля яго вялікі польскі паэт беларускага паходжання стварaў свае бессмяротныя творы. Дрэва без дапамогі людзей ужо даўно загінула б. Узвышаецца стары дуб у вёсцы Шчорсы, якую на ўсю Еўропу праславіў граф Храптовіч сваёю бібліятэкай. Шчорсы — цэнтр калгаса «Звязда» Навагрудскага раёна.**

*(Глядзі 5-ю стар.).*



*НА ЗДЫМКАХ:* • *Дуб Адама Міцкевіча ў вёсцы Шчорсы.* • *У дзень нашага прыезду Леанід КАЛАЛА і Аляксандр САМАЙЛОВІЧ займаліся нарыхтоўкай кармоў.*

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 520

### Аб арганізацыі рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе

У мэтах своечасовага і якаснага правядзення ўборкі ўраджаю і павышэння эфектыўнасці выкарыстання сельскагаспадарчай тэхнікі Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Лічыць неабходным падтрымаць прапановы Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрства фінансаў і Міністэрства эканомікі аб арганізацыі рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе.

2. Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрству фінансаў і Міністэрству эканомікі сумесна з іншымі зацікаўленымі ў тыднёвы тэрмін распрацаваць і зацвердзіць умовы правядзення і вызначэння пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе.

3. Накіраваць на заахвочванне пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе:

старшых камбайнераў, якія занялі першыя месцы, — 12 легкавых аўтамабіляў (па 2 аўтамабілі на вобласць), другія месцы — 24 халадзільнікі і трэція месцы — 36 тэлевізараў;

камбайнераў і вадзіцеляў транспартных сродкаў, якія занялі першыя месцы, — 24 матацыклы, другія і трэція месцы — 120 тэлевізараў.

Для ўзнагароджання калектываў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія занялі першыя месцы, устанавіць 18 ганаровых дыпломаў з грашовымі прэміямі.

4. Выдзеліць Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання па яго заяўцы з рэспубліканскага пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання 1298 млн. рублёў на набыццё халадзільнікаў, тэлевізараў, матацыклаў, выраб ганаровых дыпломаў і выдачу грашовых прэмій, што прадугледжваюцца пунктам 3 гэтай пастановы для заахвочвання і ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе.

Прасіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адшукаць фінансавыя сродкі для набыцця 12 легкавых аўтамабіляў, якія накіроўваюцца ў адпаведнасці з гэтай пастановай на названыя вышэй мэты.

5. Рэкамендаваць мясцовым выканаўчым і распарадчым органам арганізаваць абласныя і раённыя спаборніцтвы па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 1996 годзе.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**

*8 жніўня 1996 г.*
*г. Мінск.*

## ПРЭЗІДЭНТ ПРАПАНАВАЎ ПРАВЕСЦІ РЭФЕРЭНДУМ 7 ЛІСТАПАДА

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА з крыніц, якія заслугоўваюць даверу, 8 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў у Вярхоўны Савет прапанову аб правядзенні ўсенароднага рэферэндуму аб унясенні змяненняў у дзеючую Канстытуцыю. Кіраўнік дзяржавы прапануе правесці рэферэндум 7 лістапада 1996 года.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі пацвердзіў атрыманне прапановы.

**БЕЛТА.**

## ПЕРШАЕ «СВАБОДНАЕ ПЛАВАННЕ» БЕЛАРУСКІХ АЛІМПІЙЦАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

«Я неаднаразова падкрэсліваў, — сказаў кіраўнік дзяржавы, — што вы сваімі сусветнымі перамогамі на справе даказваеце, як трэба ствараць аўтарытэт нашай маладой дзяржаве. Вашы перамогі часта прыносяць краіне намнога больш папулярнасці, чым дзейнасць асобных дыпламатаў і амбіцыйных палітыкаў. З велізарнай цеплынёй і павагай я віншую з перамогай нашу гераіню Кацярыну Хадатовіч, якая, выступаючы ў веславанні сярод адзіночак, не пакінула саперніцам ніякіх шанцаў, заваяваўшы першы ў гісторыі суверэннай Беларусі залаты медаль».

Асабліва Аляксандр Лукашэнка адзначыў і шасцікратнага чэмпіёна Алімпійскіх гульняў у Барселоне Віталя Шчэрбу, які ў Атланце дабавіў у сваю скарбонку ўзнагарод яшчэ 4 бронзавыя медалі. «Хтосьці можа падумаць, што гэта няўдача, — сказаў Прэзідэнт, — а я назаву яго выступленне подзвігам, калі ўлічваць тое, якую асабістую траўму перанёс гэты чалавек».

Прэзідэнт падкрэсліў, што на гэтай Алімпіядзе нашы спартсмены ўпершыню пайшлі ў «самастойнае плаванне», і ён са свайго боку дапамагаў ім, як мог. Гэтыя ўзнагароды — дасягненне нашай дзяржавы.

Прэзідэнт павіншаваў усіх алімпійцаў з паспяховым выступленнем у Атланце і пажадаў ім шмат яркіх і прыгожых перамог, шчасця, здароўя і спартыўнай удачы.

Са словам у адказ да Прэзідэнта звярнуліся сярэбраныя прызёры Алімпіяды Уладзімір Дуброўшчык, Сяргей Ліштван, а таксама старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Рыжанкоў, якія паабяцалі ўмацоўваць і прымнажаць моц беларускага спорту, а таксама падзякавалі кіраўніку дзяржавы за яго дапамогу і падтрымку.

А пасля адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Эдуард Ханок і яго дачка Святлана, Алеся і Уладзімір Радзівілаў, а таксама многія іншыя вядомыя беларускія эстрадныя артысты. Пад іх песні танцавалі ўсе. Танцаваў і Прэзідэнт, кружачыся ў павольным танцы з чэмпіёнкай Алімпіяды Кацярынай Хадатовіч і вальсуючы з бронзавым прызёрам Атланты Марынай Знак.

Сустрэча закончылася толькі а палове адзінаццатай, і, як сказала карэспандэнту БЕЛТА адзіная беларуская «залатая» дзяўчына нядаўніх Алімпійскіх гульняў, гэты вечар усяліў ва ўсіх спартсменаў зарад бадзёрасці і аптымізму, усведамленне важнасці іх справы, а таксама даў магчымасць проста расслабіцца і адпачыць пасля цяжкіх спартыўных будняў.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ З ЯГОРАМ СТРОЕВЫМ І ДАЎ ІНТЭРВ'Ю МІЖДЗЯРЖАЎНАЙ ТЭЛЕРАДЫЁКАМПАНІІ «МІР»

**Удзень 8 жніўня беларуская дэлегацыя на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам адбыла ў Маскву для ўдзелу ў назначанай на 9 жніўня цырымоніі інаўгурацыі расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына.**

Сваё першае кароткае інтэрв'ю Аляксандр Лукашэнка даў міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» прама ў аэрапорце Унукава-2. Закранаючы пытанне аб сітуацыі ў Беларусі, Прэзідэнт, у прыватнасці, адзначыў, што ў рэспубліцы ў разгары жніво, што ўжо сабрана 2 мільёны тон збожжа. Ён падкрэсліў, што за першае паўгоддзе спад вытворчасці ў Беларусі прыпынены. Але што ўдалося гэта дзякуючы неймаверным намаганням. Аляксандр Лукашэнка не ўтойваў, што ў некаторых рэгіёнах Беларусі ёсць запазычанасці з выплатамі зарплаты, але падкрэсліў, што асабліва трывожыцца наконт гэтага не трэба. Журналісты таксама спыталі ў Прэзідэнта, ці адчувае ён падтрымку з боку Барыса Ельцына. Аляксандр Лукашэнка адказаў адназначна — «так». У рамках Супольніцтва, адзначыў ён, прынята ўжо шмат рашэнняў. Прэзідэнты гутарылі ў час брэсцкай сустрэчы і не раз апошнім часам па тэлефоне.

Першай з серыі намечаных у Маскве сустрэч Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі была сустрэча са старшынёй Савета Федэрацыі Ягорам Строевым. Яна прайшла ў рэзідэнцыі прэзідэнта Расіі вечарам 8 жніўня.

9 жніўня Аляксандр Лукашэнка будзе прымаць удзел таксама ў сустрэчы прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына з кіраўнікамі дзяржаў СНД. У гэты ж дзень адбудзецца яго сустрэча з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

У суботу, 10 жніўня, кіраўнік беларускай дзяржавы правядзе перамовы з кіраўніком расійскага МЗС Яўгенам Прымаковым, сустрэнецца з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Расіі Анатолем Чубайсам.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ІНАЎГУРАЦЫЯ ЕЛЬЦЫНА: СВЯТА З АДЧУВАННЕМ НЕБЯСПЕКІ?

**Сёння ў Маскоўскім Крамлі павінна адбыцца ўрачыстая цырымонія інаўгурацыі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына. Мерапрыемства такога кшталту і размаху праводзіцца ў Расіі ўпершыню, а таму і падрыхтоўка да яго пачалася, бадай, адразу пасля выбараў і праходзіла ў некалькі этапаў.**

Канстытуцыя Расійскай Федэрацыі і Закон «Аб уступленні на пасаду нававыбранага прэзідэнта Расійскай Федэрацыі» прадугледжвае, што кіраўнік дзяржавы ўступае на пасаду не раней як праз трыццаць дзён пасля афіцыйнага абвяшчэння вынікаў выбараў. Першапачаткова планавалася, што інаўгурацыя адбудзецца на Саборнай плошчы Крамля. Гэта павінна было сімвалізаваць, з аднаго боку — непарыўнасць кіраўніка Расіі з гістарычнай спадчынай краіны, з другога — грамадзянскую адкрытасць, паколькі ў цырымоніі пад адкрытым небам маглі прыняць удзел больш як тры тысячы гасцей, сярод якіх — члены расійскага ўрада, Савета Федэрацыі і Дзяржаўнай Думы, суддзі Канстытуцыйнага суда, дзеячы культуры, навукі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, дыпламаты, госці з блізкага і далёкага замежжа. Дарэчы, першых асоб з далёкага замежжа якраз не чакалася, а вось з краін СНД дэлегацыі даволі прадстаўнічыя.

Пазаўчора ў Крамлі праводзіліся апошнія падрыхтоўчыя работы, дакладней, ліквідаваліся рэшткі гэтых работ: прыбіралася будаўнічая тэхніка, рыштунак, смецце. Нават паўстала пытанне аб тым, каб разабраць рыштаванні вакол крамлёўскіх сабораў, якія зараз знаходзяцца на рэстаўрацыі па плану падрыхтоўкі да святкавання 850-годдзя Масквы. Аднак у апошні момант было вырашана ачысціць ад будаўнічых збудаванняў і агароджаў толькі Саборную плошчу, дзе непасрэдна і планавалася ўсё дзейства, але адначасова пакінуць у абрамленні рыштаванняў званіцу Івана Вялікага.

Акрамя таго, меркавалася, што цырымонія пачнецца ў дванаццаць гадзін разам з боем курантаў. Старшыня Цэнтрвыбаркома Расіі Мікалай Рабаў павінен быў зачытаць адпаведную пастанову аб выніках выбараў і ўручыць Барысу Ельцыну сімвалічнае пасведчанне прэзідэнта. А старшыня Канстытуцыйнага суда павінен быў прапанаваць нававыбранаму прэзідэнту прынесці прысягу на спецыяльна аддрукаваным тэксце Канстытуцыі. Далей Барысу Ельцыну павінны былі перадаць сімвалы прэзідэнцкай улады. Спярша меркавалася, што адным з іх і, бадай, самым галоўным будзе ордэн «За заслугі перад Айчынай» I ступені з ланцужком. Але пасля таго, як камісію па інаўгурацыі ўзначаліў новы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Расіі Анатоль Чубайс, размова пра ордэн адышла на іншы план і паволі заціхла. Ранейшы сцэнарый інаўгурацыі наогул быў моцна зменены А. Чубайсам. У прыватнасці, цырымонія перанесена з Саборнай плошчы ў Крамлёўскі палац і скарочана да мінімуму, адменена выкананне кантаты «Наш Прэзідэнт», якая была створана спецыяльна для гэтай падзеі. А зусім нядаўна з'явіўся і ўказ Ельцына, які вызначыў сімвалы прэзідэнцкай улады. Гэта штандар Прэзідэнта і той самы спецыяльна аддрукаваны тэкст Канстытуцыі, на якім будзе прыносіцца прысяга. Ён існуе ў адзіным экземпляры.

Ёсць у падрыхтоўцы да цырымоніі і непрыемны бок. Справа ў тым, што ўрачыстасці ў Маскве яшчэ да іх пачатку аказаліся моцна азмрочанымі. У Чачні з новай сілай разгарэліся ваенныя дзеянні. 6 жніўня атрады баевікоў здзейснілі настолькі моцныя атакі, што іх можна параўнаць хіба толькі з сакавіцкімі ўспышкамі. Толькі за адзін дзень расійская армія страціла больш за дваццаць вайскоўцаў, а ўжо 7 жніўня ў Грозным было забіта больш за трыццаць расійскіх салдат і каля сотні паранена. Адначасова палявыя камандзіры з чачэнскага боку папярэдзілі, што па-свойму адзначаць інаўгурацыю Ельцына. У Крамлі б'юць трывогу і адначасова гадаюць, ці чакаць з поўдня яшчэ горшага падарунка. А тым часам чачэнская тэма выклікае неспакой не толькі ў Крамлі, але і ў цэлым у Маскве, якая яшчэ не ачомалася ад шоку, выкліканага выбухамі ў сталічных тралейбусах. Вядома, гарадскія ўлады падумалі пра ўзмоцненыя меры бяспекі масквічоў 9 жніўня, але гэта не надта заспакойвае гараджан. Нават святочныя гулянні з нагоды інаўгурацыі Ельцына не выклікаюць у звычайных масквічоў асаблівага энтузіязму, паколькі ніхто не можа гарантаваць поўную бяспеку падчас іх правядзення. Здаецца, наадварот, у гэты дзень многія застануцца дома. Як кажуць, ад граху падалей.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● АПОШНІЯ ПАДЗЕІ АКЦЭНТУЮЦЬ УВАГУ НА ЗДАРОЎІ ЕЛЬЦЫНА**

Крэмль паведаміў, што Ельцыну былі прапанаваны два варыянты інаўгурацыі і ён выбраў самы танны. На думку арганізатараў, у гэтым выпадку ўдасца зэканоміць сама мала мільён фунтаў стэрлінгаў. Аднак многія расіяне выказваюць апасенне, што сапраўднай прычынай змянення планаў стала здароўе прэзідэнта. Лідэр кампартыі Расіі Генадзь Зюганаў выступіў з заявай, што Ельцын сур'ёзна хворы і не ў стане выконваць абавязкі Прэзідэнта. Учора раніцай прэс-сакратар прэзідэнта заявіў, што адразу пасля цырымоніі інаўгурацыі Ельцын зноў пойдзе ў адпачынак на месяц.

**● МАРШ ПРАТЭСТАНТАЎ: БЕСПАРАДКІ ГАРАНТУЮЦЦА**

Сілы бяспекі Паўночнай Ірландыі блакіравалі частку горада Лондандэры, каб не дапусціць праходжання суботняга маршу пратэстантаў праз кварталы, населеныя католікамі. Прыхільнікі пратэстанцкай арганізацыі «Падмайстры» маюць намер заўтра раніцай прайсці маршам вакол гарадскіх сцен, найбольш небяспечная частка якіх ачэплена кардонам. Рашэнне брытанскага ўрада санкцыяніраваць такія меры пратэстанты расцанілі як грубае парушэнне заканадаўства. Член парламента ад Лондандэры Джон Х'юм заклікаў варожыя бакі да міру. Большасць жыхароў Паўночнай Ірландыі віталі б дамоўленасці, якія вядуць да зняцця напружання. Аднак ёсць апасенні, што экстрэмісты з абодвух бакоў настолькі распалены, што не пачуюць гэтых заклікаў.

**● ІЗРАІЛЬ ПРАВЁЎ РАКЕТНЫ АБСТРЭЛ УСХОДНЯГА ЛІВАНА**

Ізраільскія самалёты нанеслі ракетныя ўдары па пазіцыях ісламскага руху «Хэзбалах» ва Усходнім Ліване. Байцы руху і сірыйскія войскі адкрылі агонь у адказ са сродкаў проціпаветранай абароны. Паведамленні пра страты пакуль не паступалі.

**● ФАШЫСТЫ ЎЗДЫМАЮЦЬ ГАЛАВУ**

Улады аднаго з галандскіх гарадоў на мяжы з Германіяй заявілі, што не дазволяць неанацыстам шэрага еўрапейскіх краін правесці мерапрыемствы з нагоды гадавіны смерці намесніка Гітлера Рудальфа Геса. Арганізатары хацелі правесці зборышча бліжэй да мяжы з Германіяй, у якой такія акцыі ўвогуле забаронены.

**● ПАЛАТКІ ТУРЫСТАЎ НАКРЫЛА ЛАВІНА**

Праліўны дождж на паўночным усходзе Іспаніі выклікаў моцныя апоўзні, у выніку чаго загінулі 30 чалавек, каля 100 атрымалі раненні. Лавіна абрынулася на турысцкі лагер. Сярод ахвяр шмат дзяцей. Відавочцы расказваюць, што машыны і будынкі змятала бы цацкі. Людзі ўзбіраліся на дрэвы ў пошуках паратунку. У лагеры знаходзіліся турысты з усёй Заходняй Еўропы. На дапамогу выратавальным службам Іспаніі прыйшлі вайскоўцы. Пацярпеўшых адводзілі ў сховішча на спартыўны стадыён, дзе ім выдавалі ежу, вопратку і аказвалі медыцынскую дапамогу.

**● ЦІ ЁСЦЬ ЖЫЦЦЁ НА МАРСЕ? ДАКЛАДНА БЫЛО!**

Прэзідэнт Клінтан аб'явіў аб прыняцці шырокай праграмы даследавання Марса пасля таго, як НАСА аб'явіла, што выяўлены даволі сур'ёзныя доказы таго, што на Марсе калісьці існавалі прымітыўныя формы жыцця. ЗША плануюць ужо ў бліжэйшыя 10 гадоў запусціць на Марс 10 беспілотных касмічных караблёў. Першыя два, кожны з якіх ацэньваецца ў 200 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, будуць адпраўлены ў сямімесячнае падарожжа да канца бягучага года. Зараз НАСА запросіць дадатковыя сродкі на даследаванне планеты Марс у ходзе намечанай прэзідэнтам Клінтанам на снежань нарады па даследаванню космаса. Грошы, хутчэй за ўсё, знойдуцца.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## Крывавы падарунак Яндарбіева Ельцыну

**Увесь дзень учора з Чачні паступалі ў Маскву трывожныя весткі аб крывавых падзеях. І хоць былі яны часам супярэчлівыя, аднак безпамылкова можна адзначыць адно: за ўчарашні дзень расійскія войскі панеслі самыя вялікія страты, якія па «ведамаснай традыцыі» камандаванне не мае намеру праўдзіва паведамляць.**

І гэта нягледзячы на тое, што, як рапартуюць штабісты, інтэнсіўнасць дзейнасці баевікоў значна зменшылася. Быццам бы зроблены радыёперахват размовы кіраўніка аперацыі з камандзірам Русланам Яўлаевым, які ўзначальвае Грозненскую групоўку баевікоў. Аднак ёсць падазрэнне, што такая інфармацыя накіравана на тое, каб «падрыхтаваць» прыём міністру абароны Радзівонаву і сакратару Савета бяспекі Лебедзю, якія збіраюцца тэрмінова прыляцець на чачэнскі фронт. А радыёперахват наконт таго, што камандзірам груп аддадзены загад аб адыходзе з Грознага: маўляў, справа зроблена...

На Доку Заўгаева наведзены такі жах, што ён ледзь выратаваўся, збегшы са сваім урадам на адну з самых буйных ваенных баз расійскіх войскаў, непадалёку ад Грознага. База не раз абстрэльвалася яндарбіеўскімі малойчыкамі, у выніку загінуў нават камендант базы палкоўнік Ашланаў.

Некаторыя ваенныя спецыялісты параўноўваюць жнівеньскую аперацыю чачэнцаў з сакавіцкай, падрыхтоўку да якой так бяздарна праваронiў расійскі бок. І зноў «атрымалася знянацку». І зноў у вайскоўцаў, атакаваных баевікамі на вуліцах Грознага, Аргуна і ў іншых месцах, не хапае зброі і боепрыпасаў.

Экіпіроўка нападаючых, як аказалася, у некалькі разоў пераўзыходзіць аснашчэнне расійскіх воінаў. А сродкам сувязі чачэнскіх камандзіраў могуць пазайздросціць нават у самых высокіх расійскіх штабах.

Расіяне балюча перажываюць новую трагедыю ў Чачні. Цяжка даць веры, што пасля хлуслівых ваяўнічых заяў мінабаронаўскіх генералаў аб знішчэнні «асноўных сіл бандыцкіх атрадаў» тыдні два таму назад, толькі за апошнія тры дні баёў на тэрыторыі Чачні палягло больш за 60 байцоў, збіта 8 верталётаў, страчана 15 адзінак бранятэхнікі...

Што ж, напярэдадні сваёй інаўгурацыі Прэзідэнт Ельцын атрымаў ад кіраўніка чачэнскай апазіцыі яшчэ адзін крывавы падарунак. Падарунак, які будзе шчодра паліты горкімі слязьмі новых расійскіх удоў і сірот.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## Вуліцы Грознага завалены мёртвымі целамі

**Учора з раніцы расійскія войскі пачалі цясніць чачэнскіх байцоў, якія спрабавалі ўтрымацца ў асобных частках горада. Чачэнскія паўстанцы сцвярджаюць, што цэнтр горада застаецца ў іх руках. Цывільнае насельніцтва, якое апынулася ў пастцы ў Грозным, вымушана перажыць яшчэ адзін дзень жаху. Абодва бакі ўчора падцягвалі падмацаванні да месцаў баёў. Карэспандэнт ІТАР—ТАСС перадаў, што расійскія танкі і «бэтээры» вялі агонь па ўкрыццях паўстанцаў.**

Вуліцы горада завалены трупамі — як баевікоў і расійскіх вайскоўцаў, так і мірных жыхароў. Міжнародны камітэт Чырвонага крыжа заклікаў абодва бакі аб'явіць часовае спыненне агню, што дало б магчымасць эвакуіраваць параненых. Лідэры чачэнскіх апалчэнцаў заявілі, што яны былі вымушаны правесці наступленне на Грозны таму, што Масква парушыла дамоўленасць наконт вываду войскаў. Адзін з палявых камандзіраў заявіў газеце «Известия», што аперацыя была спланавана такім чынам, каб па часе яна супала з інаўгурацыяй прэзідэнта Ельцына. Ён сказаў, што чачэнцы вырашылі нагадаць часцям расійскага лідэра, што вайна працягваецца і што Чачня ніколі не будзе пакорана сілай.

У другой палове дня чачэнскія паўстанцы будавалі ў цэнтры Грознага ўмацаванні і мініравалі падыходы да ўрадавых будынкаў, у якіх блакіраваныя федэральныя сілы чакалі падмацавання.

Ні адна з заходніх газет не абмінула ўвагай апошнія падзеі ў Чачні. «Ёсць штосьці ўражваючае ў тым, што нацыя ў паўтара мільёна чалавек, крыху большая за сярэдняе англійскае графства, адмаўляецца падпарадкавацца ваеннай сіле велізнай дзяржавы», — заяўляе рэдакцыйны артыкул у «Дэйлі тэлеграф». «Хуткасць і эфектыўнасць чачэнскага рэйду ў Грозны чарговы раз даказвае, што сцвярджэнне Масквы пра дасягненне кантролю над сітуацыяй у Чачні — ілюзія», — піша «Таймс». «Замяніўшы Джахара Дудаева Яндарбіеў куды больш прагматычны, куды больш цвяроза глядзіць на рэчы і камандуючы сіламі баевікоў Аслан Масхадаў», — піша газета.

Былы спікер Вярхоўнага Савета Расіі Руслан Хасбулатаў лічыць, што федэральная дэлегацыя на перамовах з лідэрамі ўзброенай чачэнскай апазіцыі на чале з міністрам па справах нацыянальнасцей Міхайлавым павінна быць адхілена ў поўным саставе.

**Падрыхтаваў Сяргей ПРОТАС.**

## ВІНШАВАННІ

Дарагая мамачка і бабуля **Лідзія Архіпаўна ПЯНКРАТ**! Віншуем цябе з днём нараджэння. Мы ўдзячныя табе за клопаты і турботы, за ласку і пяшчоту. Няхай жыццё тваё будзе шчаслівым і радасным. Здароўя і сямейнага дабрабыту табе. ***Дзеці і ўнукі.***

Віншуем з днём нараджэння **Таццяну Барысаўну СТРЫЖАНКОВУ**. Жадаем радасці, здароўя, даўгалецця. ***Муж, дачка Оля. г. Гомель.***

Віншую каханую жонку **Веру Якаўлеўну ГРУДЗЬКО** з днём нараджэння. Жадаю здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця. ***Муж Уладзімір.***

Сардэчна віншуем **Вольгу Арсеньеўну КОРКУЦЬ** (г. Мазыр) і Ігара Пятровіча Залягая (г. Гомель) з законным шлюбам. Ад шчырага сэрца жадаем шчасця і дабра, каб вера, надзея і каханне спадарожнічалі вам у доўгім сумесным і радасным жыцці. ***Вашы родныя.***

Віншуем з пяцігоддзем сумеснага жыцця **Юрыя і Лену БАБІЧ**. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці і працы. ***Вашы родныя тата, маці, Коля, Дзіма з Глыбоцкага раёна.***

# ЛЁС ГАЗЕТЫ — ЛЁС КРАІНЫ

**ЧАМУ АБ ГЭТЫМ ТРЭБА ПІСАЦЬ**

**Сярод матэрыялаў цэнтральных перыядычных выданняў, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, сваё асобае фізічнае і духоўнае месца займаюць дакументы старэйшай беларускамоўнай газеты «Звязда».**

**Гэта розныя па паходжанню, але, безумоўна, цікавыя прамыя і апасродкаваныя сведкі працэсу нараджэння выдання, яго зацвярджэння ў духоўным, культурным, палітычным жыцці Беларусі. Гэта надрукаваныя на машынцы ці напісаныя ад рукі справаздачы рэдакцыі, пастановы ЦК КПБ аб газеце, пратаколы сходаў працоўнага калектыву, жудасныя адбіткі сталінскіх рэпрэсій, пісьмы чытачоў, шматлікія бухгалтарскія і фінансавыя разлікі.**

**За сказаным паўстае, вядома, у першую чаргу не зробленае за многія гады супрацоўнікамі архіва па прыняццю ў свае фонды газетнага справаводства, арганізацыі яго захавання, а гістарычны час у вобразе лёсу і здзейсненага ў розныя перыяды мінулага калектывам газеты.**

**Маючы гэта на ўвазе, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь у дзень нараджэння газеты — а гэта сённяшняя дата календара — публікуе некаторыя з дакументаў першых двух дзесяцігоддзяў існавання гэтага друкаванага органа.**

Кажуць: першы блін камяком. У дачыненні да «Звязды» прымаўка не спрацоўвае, як не стасуецца гэты фразеалагічны выраз з Белдзяржуніверсітэтам, Інстытутам беларускай культуры, часопісам «Полымя», якія з'явіліся амаль у той жа гістарычны перыяд. «Звязда», як і яе калегі па нараджэнню, уваходзіла ў бурлівае жыццё ўпэўненым крокам дзякуючы трывалай сувязі гісторыі з рэаліямі практыкі.

Каб зразумець неабходнасць выдання «Звязды» ў 1917 годзе, трэба зазірнуць у жыццё Мінска таго часу. А яно было далёка не перыферыйным і не кволым з культурнага пункту гледжання.

Тут давалі канцэрты вядомыя спевакі Расіі, Заходняй Еўропы, ставілі пастаноўкі тэатральныя калектывы Варшавы, Вільна, Парыжа, Лондана. Праўда, пачатак першай сусветнай вайны пагоршыў духоўнае жыццё, але ў кіёсках, на прылаўках магазінаў тых дзён лёгка можна было заўважыць перыядычныя выданні: «Минская газета» (орган мясцовых лібералаў), «Фронт» (орган выканкома Заходняга фронту), «Вольная Беларусь» (орган Беларускага нацыянальнага камітэта), «Крестьянская газета» (орган з'езда сялянскіх дэпутатаў Мінскай губерні), «Известия Минского Совета», «Вести Минского губернского комиссара» і інш.

У такіх умовах палітычнага і культурнага стану горада і нарадзілася ідэя стварэння газеты. Яна планавалася як бальшавіцкі орган, які павінен быў абслугоўваць рабоча-салдацка-сялянскую апазіцыю Часовага ўрада, уступіць у ідэалагічную барацьбу з тымі, хто падтрымліваў існуючы дзяржаўны і грамадскі лад.

Цяжка сказаць, адкуль узялося найменне «Звязда». Беларускі паэт Пятро Глебка спецыяльна прысвяціў гэтаму аспекту гістарычнай генеалогіі газеты лірычны верш «Дзяньніца», у якім, у прыватнасці, пішацца:

*«Ня помню, ня знаю у якой старане:*
*на усходзе, на захадзе можа,*
*у хмарах у чорных —*
*спрадвечнай багне*
*зару ахінула прыгожасьць.*

*Дзівіліся людзі на гэту зару,*
*у косы ўпляталі праменьне, казалі:*
*«цяпер закалосіцца рунь на дзікім,*
*на жорсткім каменьні».*

*А зорка сьвяціла, паказвала шлях,*
*лілася на жвір сырадоем,*
*за гэтым працьвітваць стала зямля,*
*а зорку назвалі «Зьвяздою».*
[1927 г.]

Прадаставім увазе чытача «Уласнажыцьцяпіс» (1918 г.), які ўяўляе сабою гумарыстычную «аўтабіяграфію» гэтага газетнага выдання. Усё тут, як кажуць, на месцы: і даты, і імёны, і метамарфозы з назвамі перыядычнага органа і інш. Няма толькі ў артыкуле ўказання аб прыфрантавым становішчы Мінска, што разам з другімі момантамі з'яўлялася адной з прычын рэпрэсіўных адносінаў да рэвалюцыйна настроенага газетнага лістка.

«Уласнажыцьцяпіс», друкуемы са скарачэннямі, так знаёміць з перыпетыямі першага этапа станаўлення газеты: «Нарадзілася я 27 ліпеня (9-га жніўня) 1917 году ў г. Менску, на Петраградскай вул, у д. № 6, у Менскім камітэце РСДРП (бальшавікоў). З прычыны буржуазна-згодніцкае небясьпекі, мяне ахрысьцілі трыма імёнамі: «Звезда», «Молот» і «Буревестник». Першы раз мяне пазбавілі першай назвы «Звезда» ў ноч на 25 жніўня (7-га верасьня) мінулага году.

Пасьля семнаццаціразовага майго зьяўленьня на фронце, у вялікай Заходняй краіне, і на шумных вуліцах, у казармах рабочых і салдат г. Менску ў ролі праваабаронцы прыгнечаных і падманутых рабочых і акопнікаў, мяне моцныя асобы таго часу рашыліся злавіць і пакараць.

У гэтую ноч яны злавілі мяне ў друкарні п. Данцыга, каля Маскоўскай вул. у г. Менску. Я здолела схавацца. Часова перастала называцца «Звездой» і 15-га верасьня (28 верасьня) вышла на сваю працу пад назваю «Молот».

Зноў я вышла семнаццаць разоў і на васемнаццаты раз зноў у той жа друкарні мяне чуць-чуць не арыштавалі. Я зноў увільнула ад ішчэяк.

На другі дзень раніцаю ўжо асцярожна прынялася за працу, усё-ж пад назваю «Молот», але потым баючыся, каб мяне ўсё-ж не злавілі, я рашыла адпачыць некалькі дзён, каб потым зноў наведваць сваіх салдат, рабочых і сялян, карыстаючыся трэцім сваім прозьвішчам — гучным, агульнавядомым і прыгожым — «Буревестник».

Ня вышла я яшчэ і дваццаці разоў, як пачалася Кастрычнікаўская рэвалюцыя, якая зьнішчыла маіх ворагаў.

Мне ўжо ня трэба было хавацца. Я зноў пачала выходзіць пад сваёй каханай назвай.

І як бы мне хацелася назаўсёды застацца «Зьвяздой», каб вераю і праўдаю служыць майму працоўнаму народу. Гэта маё адзінае шчасьце».

На архіўных паліцах, на жаль, знаходзяцца не ўсе нумары газеты. Віна таму — незлічоныя шляхі вайны, турботы эвакуацыі і інш. У 1932 годзе па лініі кіраўніцтва БССР прымаліся меры па перадрукаванню першых нумароў, якія больш за ўсё пацярпелі ад нестабільнасці. На жаль запланаванае было выканана не ў поўным аб'ёме.

Але разнастайны гістарычны, статыстычны і публіцыстычны матэрыял Нацыянальнага архіва РБ дазваляе прасачыць шлях газеты ад яе заснавання да сённяшніх дзён. Пераважная большасць архіўных даных у навуковы абарот не ўведзена. Тлумачыцца гэта, галоўным чынам, існаваўшымі раней ідэалагічнымі ўстаноўкамі, якія не дазвалялі паказваць негатыўныя бакі жыцця, хоць гэта вяло да скажэння і нават дэфармацыі рэальнасці. За межамі публікацый аказаліся шматлікія звесткі аб функцыянальных і кадравых зменах, якія давялося перажыць рэдакцыі, усяму калектыву і якія былі звязаны з узмацненнем ідэалагічнага дыктату ў грамадскім жыцці.

Дакументы шчыра і аргументавана сведчаць аб арганічным і дыялектычным зліцці газеты з часам і лёсам краіны, аб тым, што «Звязда» з вузка партыйнага выдання ператварылася ў агульнанацыянальны орган.

Безумоўна, напісана і выдадзена аб ёй нямала ў вялікіх і малых формах. У той жа час існуе не вельмі шмат твораў, якія б «заглядвалі» ва ўнутранае жыццё рэдакцыі, бліжэй знаёмілі з тымі, хто тут працаваў: з іх канцэптуальнымі поглядамі на жыццё і рэчаіснасць, творчай спадчынай, лёсам, чалавечымі і прафесіянальнымі ўзаемаадносінамі.

Кіруючыся гэтым падыходам, мы і друкуем сёння дакументы, некаторы статыстычны, мемарыяльны матэрыял. Зробленае прысвечана, акрамя ўсяго іншага, уступленню газеты ў 80-ы год сваёй плённай дзейнасці. Нацыянальны архіў РБ мае намер і ў далейшым перыядычна публікаваць на старонках выдання малавядомыя ці зусім невядомыя матэрыялы, якія адлюстроўваюць лёс і перыпетыі старэйшай беларускамоўнай газеты нашай краіны — «Звязды».

### Спачатку былі грошы, а потым слова

Каб ажыццявіць задуманае, незалежна ад яго дзяржаўнага і выхаваўчага значэння, заўсёды патрэбен нікчэмны, як кажуць, метал — грошы. А іх амаль не было ў людзей, якія задумалі на трэцім годзе першай сусветнай вайны выдаць у Мінску рэвалюцыйна-апазіцыйную газету.

Ідэя аказалася мацнейшай за матэрыяльныя перашкоды. Аб тым, як гэта здарылася, піша ў сваіх успамінах адзін з рэдактараў, заснавальнікаў выдання В. Фамін (1927 г.):

«Група бальшавікоў, якая працавала на былым Заходнім фронце ў 1917 годзе, у самым пачатку лютаўскай рэвалюцыі паставіла перад сабой заданне аб арганізацыі ў Менску свайго бальшавіцкага органу. Гэта было тым больш неабходна, што ўрад Керанскага і камандаванне фронтам вялі рашучую барацьбу з тагачаснымі бальшавіцкімі петраградскімі і маскоўскімі газетамі, недапускаючы іх на фронт і, асабліва, у акопы.

Не маючы грошавых сродкаў, мы вырашылі накіраваць тав. Дзмітрыева, а крыху пачакаўшы і тав. Магілеўскага ў Петраград для атрымання ад ЦК нашай партыі дазволу на выданне газеты і грашовай дапамогі. Дазвол быў дадзены, а на выданне газеты ЦК нам адпусціў 2000 рублёў грошай».

Сума па тым часе была невялікая: хапала яе на 5-6 нумароў. Але як матэрыялізаваць сродкі ў справу: дзе знайсці паперу, у чыёй тыпаграфіі распачаць друкаванне?

Аб гэтым даносіць цікавыя звесткі таксама адзін з рэдактараў Р. Пікель (1925 г.). «Почти все владельцы типографий отказались набирать у себя нашу газету; наконец, нашли одного, который согласился печатать ее, но набор надо было давать со стороны. Сговорились тогда с 4-5 мелкими типографиями, печатавшими только бланки и визитные карточки, имевшими в своем распоряжении по пудику шрифта, и набрали в одной передовую, в другой — хронику, в третьей — партийную жизнь и т. д. А потом метались по всей Немиге (почти все типографии эти были сосредоточены в этом районе), собирая связанный бечевками свинцовый набор, чтобы к вечеру снести его на печатную машину. Сами держали корректуру, сами верстали, сами продавали и занимались расклейкой объявлений о выходе газеты...»

Жорсткая барацьба за крыніцы фінансавання працягвалася ў самых разнастайных формах амаль да перамогі савецкай улады. Сярод іх была і такая мера папаўнення журналісцкай казны, як «жалезны фонд». Гэтак называўся збор ахвяраванняў, які ажыццяўляўся, галоўным чынам, салдатамі-акопнікамі.

За перыяд з моманту выхаду «Звязды» да 7 лістапада 1917 года ў фонд паступіла 918 руб. 75 кап.

Як выхад з цяжкага грашовага становішча выкарыстоўвалася выданне папулярных брашур, арганізацыя платных курсаў, латарэй, чытанне публічных лекцый. Выданне брашур было справай прыбытковай: кніжачка ў 16—32 старонкі абыходзілася 2-3 капейкі, а прадавалася па 5—10. Асабліва ходкай літаратурай з'яўляліся ў тыя дні брашуры Леніна, Троцкага, Калантай, апавяданні М. Горкага, кніга «Спартак».

Дзеля пашырэння кола чытачоў, а гэта значыць і грашовых паступленняў, друкаваўся сенсацыйны матэрыял. Адзін час пастаўляў яго знаёмы рэдакцыі, які працаваў у штабе Заходняга фронту. Газета патаемна атрымлівала ад яго сакрэтныя загады камандавання аб барацьбе супраць рэвалюцыйна настроеных салдат. Закончылася гэта арыштам друкарні і яе супрацоўнікаў. Як бачым, грошы дарэмна не даваліся.

А зараз прапануецца карэспандэнцыя Максіма Гарэцкага, класіка беларускай літаратуры, аднаго з супрацоўнікаў газеты, прысвечаная 10-годдзю «Звязды». «СМАЛЕНСК—МЕНСК—ВІЛЬНЯ. Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску, і ў самым канцы 1917 г., ці ў пачатку 1918 г., пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета».



Я даваў спачатку фельетоны і пераклады з сваіх жа апавяданняў у беларускай мове пад псеўданімам Дзед Кузьма.

* * *

Агалашэньне ў сьнежні 1918 г. на камуністычнай канфэрэнцыі ў Смаленску незалежнасьці Беларусі нарабіла тады гуку. І яшчэ ў Смаленску, у «Западнай Камуне», а можа быць і ў «Зьвяздзе», быў зьмешчаны мой невялічкі артыкул аб Савецкай Беларусі з загалоўкам па-беларуску: «Няхай жыве Савецкая Беларусь!». Гэта былі, мусіць, першыя прызнаныя беларускія словы ў смаленскіх газетах.

Тады ў Менску мела разьвінуцца шырокая культурная беларуская праца, і я ахвотна згадзіўся на прапазыцыю тав. Кнорына — пераехаць у Менск на сталую працу ў «Зьвязду»...

У Менску рэдакцыя «Зьвязды», пераехаўшы з Смаленску, зьмяшчалася спачатку ў доме, дзе цяпер клюб Карла Маркса, супраць Менскага тэатру. Там жа рэдакцыя сфатаграфавалася: тав. Кнорын, тав. Мяснікоў (рэдактары), тав. Іофэ (сакратарка), тав. Пэраль (рабочае і прафесійнае жыццё) і яшчэ некаторыя таварышы. Картка была зьмешчана ў 2-тыднёвай ілюстраванай часопісі «Заря Запада», якая тады выходзіла ў Менску. Пазьней рэдакцыя «Зьвязды» перайшла на Савецкую, дзе яна і была да пераезду ў Вільню...

* * *

У самым канцы сакавіка ці ў самым пачатку красавіка 1919 г. рэдакцыя «Зьвязды» пераехала з Менску ў Вільню, але ня ў тым складзе, у якім была ў Менску. На прапазыцыю тав. Кнорына паехаў і я.

Сумна было глядзець у дарозе, колькі разьбітых дамоў, пасечанага лесу, акопаў, галодных уцекачоў. Дзе была Смаргонь — там толькі каміны тырчаць ды пабітая цэгла валяецца, болей нічога няма, дрэвы і тыя — пакалечаны, паломаны...

Пасьля панаваньня немцаў Вільня спусцела, людзей было мала, конка не хадзіла, фурманоў ня відаць, гандляры керанак не хочуць браць, усё надта дорага, а хлеба і зусім не дастаць.

У савецкіх установах чулася найбольш польская і літоўская мова, на вуліцах — польская і яўрэйская, а калі я зварочваўся да газетніка, фурмана, нумярнога ў гатэлі па-беларуску, дык яны кідалі мову польскую ці расійскую і гаварылі па-беларуску.

Тым часам белыя былі недалёка ад Вільні: станцый за 3 ад Вільні ці бліжэй. Іх то адганялі, то яны ізноў бліжэй падсоўваліся. Над Вільняю лёталі часта аэрапляны, кідалі, як мне прыходзілася чуць ад людзей, праклямацыі з заклікам бунтаваць супраць Саветаў. Усюды было шмат шаптуноў; шапталі самае фантастычнае.

«Зьвязда» змяшчалася ў доме, дзе была раней літоўская Тарыба, на рагу Юрашскага праспекту і Віленскае вуліцы. У рэдакцыі сталі працаваць часткаю новыя, мала вядомыя мне супрацоўнікі.

Мінулася тыдні тры — і на Вільню наляцелі легіёны пана Пілсудскага. Я прачнуўся ад грукату гармат і кулямётаў...

Між іншым, справядлівасць вымагае адзначыць, што дапамог нам ратавацца, з немалою рызыкаю і небяспекаю для сябе самога, беларускі драматург і артыст Францішак Аляхновіч. Ён прывёў нас да сябе на кватэру, і там, на Маставой вуліцы, мы і прыпыніліся, каб трохі абдумацца, якім спосабам выбрацца з Вільні. Але выбрацца нам тады ня прышлося, мы мусілі застацца ў Вільні...»

### Хто будзе кіраваць балем

Газета нараджалася як калектыўны орган. Сярод галоўных прэтэндэнтаў на месца рэдактара бясспрэчнага пераможцы не было. Не выказаў на гэты конт сваіх катэгарычных меркаванняў і ЦК РСДРП(б), аддаўшы права вырашэння гэтай справы мясцовым партыйным сілам.

Безумоўна, пэўную перавагу меў А. Мяснікоў, які на той момант з'яўляўся старшынёй Мінскага камітэта РСДРП(б) — галоўнага заснавальніка выдання. Але ён не хацеў псаваць адносіны з такой каларытнай і вядомай палітычнай фігурай, як М. В. Фрунзе, кіраўнік мясцовай міліцыі, старшыня Мінскага губернскага сялянскага камітэта.

Ганарліва паглядалі на іх К. Ландэр і В. Фамін. Першы ў верасні 1917 г. быў абраны старшынёй Мінскага савета, а другі меў значную падтрымку ў гарадскіх бальшавікоў.

З улікам вышэйсказанага ў рэдакцыйным кабінеце аказаліся адразу 4 рэдактары: А. Ф. Мяснікоў, М. В. Фрунзе, К. І. Ландэр, В. В. Фамін.

Называем загадчыкаў аддзелаў рэдакцыі, аб якіх чамусьці ў публікацыях гаворыцца занадта сціпла, а яны, як сведчаць архівы, адыгралі значную ролю ў набыцці «Звяздою» неабходнага іміджа.

У 1917 годзе тут працавалі: У. Неўскі — складаў «Агляд друку», выпускаў «Салдацкія пісьмы»; Г. Усцінаў — загадчык аддзела інфармацыі, фельетаніст; В. Кнорын — «Агляд унутраных і замежных падзей»; В. Рэзаўскі — «Мясцовае жыццё».

Супрацоўнікамі газеты таксама з'яўляліся С. Магілеўскі, С. Шчукін, М. Стаfunction ражэўскі, І. Алібегаў, Л. Гамашэўскі, І. Рэінгольд (І. Рэнёў).

Будучае паказала, што «Звязда» стартавала з камандай таленавітых, творчых людзей, большасць якіх па розных прычынах рана пакінулі жыццё.

### Без такту няма і кантакту

У сярэдзіне 1927 года «Звязда», згодна з пастановай ЦК КПБ, перайшла на беларускую мову.

Аб першых кроках гэтай падзеі гаворыць адзін з дакументаў за кастрычнік таго года, падрыхтаваны адказным чыноўнікам друку: «До белоруссизации средний реальный тираж «Звезды» за последние полгода (январь—июль 1927 года) выражался в 20 тысяч экземпляров. В октябре сего года, т. е. на третий месяц после белоруссизации, тираж определился в шесть тысяч экземпляров. Таким образом, белорусский язык, введенный в газете, оттолкнул от «Звезды» 14 тысяч подписчиков, что составляет 70% ее прежнего тиража».

Далей аўтар дадзенага «аналізу» робіць выснову: каб «Звязда» знайшла выйсце з цяжкага становішча, неабходна ў кожным з 8 акругоў рэспублікі ўстанавіць інстытут платных упаўнаважаных, якія будуць рабіць «нажым» (так у тэксце) на пакупнікоў газеты. Ці магло гэта зняць праблему? Безумоўна, не.

Беларусізацыя газеты адбывалася добраахвотна, як добраахвотна прыйшоў да яе пакупнік. Разумны шлях ляжаў не праз сілавыя меры, а праз распаўсюджванне беларускай мовы ў справаводстве, навучальных установах, духоўным жыцці наогул. Значную становучую ролю ў гэтым адыграла больш шырокае друкаванне на старонках «Звязды» твораў знакамітых беларускіх літаратараў: Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, К. Буйло, П. Труса, П. Броўкі, З. Бядулі, К. Чорнага і інш.



**Будынак у Мінску, дзе друкаваліся першыя нумары «Звязды»**

* * *

Дакументальнае забеспячэнне гістарычнага мінулага, асабліва першых гадоў Савецкай улады, не самае лепшае з-за знаходжання архіва ў часовай эвакуацыі (1941—1944) на ўсходзе СССР.

Таму пошук і ўдакладненне даных працягваецца у архівах Масквы, Кіева, Санкт-Пецярбурга, КДБ Беларусі.

### Месцы выдання «Звязды»

Мінск: VIII.1917—II.1918; Смаленск: II.1918—I.1919;

Мінск: I.1919—III.1919; Вільно: красавік 1919;

Мінск: X.1919—V.1919; Бабруйск: жнівень 1919;

Смаленск: IX.1919—VII.1920; Мінск: VIII.1920—X.1920;

Барысаў: кастрычнік 1920; Мінск: X.1920—VI.1941;

Магілёў: VI—XII.1941.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва РБ.**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва РБ.**

*(Працяг будзе.)*

# НА ГЭТАЙ ЗЯМЕЛЬЦЫ ЎСЕ МЫ — НЕ ГОСЦІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)



Старшыня «Звязды» — Міхась АМЕЛЬЯНОВІЧ

Адразу папярэджу: выбрана гэта гаспадарка не толькі з-за аднайменнай з нашай газетай назвы. (Хаця і гэта акалічнасць мела месца.) Калгас «Звязда» — адна з лепшых гаспадарак Навагрудчыны. Характэрная дэталь: тут яшчэ ні разу не было затрымкі з выплатай заробку. (Падумалася: у сённяшніх умовах, калі многія калгаснікі на Беларусі не атрымліваюць заробку па паўгода, гэты сказ можа быць пачаткам і заканчэннем любога, як кажуць, хвалебнага артыкула. Гэты сказ увогуле можа быць цэлым артыкулам. Ёсць жа аднарадковыя вершы... Выплачваюць заробак своечасова — значыць, справы ідуць добра.)

... Ужо праз гадзіну знаходжання ў калгасе стала відавочным: прыезд журналістаў — лішні клопат. Яшчэ не жалі, але сяляне знаходзіліся на сенакосе. Міхась Амельяновіч, які кіруе гаспадаркай амаль дзесяць гадоў, расказаў, што для ўсіх людзей трава скошваецца калгаснай тэхнікай.

Размаўляем. Распытваю пра поспехі, праблемы. Занатоўваю лічбы. Раптам Міхась Фёдаравіч кажа:

— Пачакайце, калі ласка, хвілінку. Падкіну дзяцей на сенакос. Якраз распагодзілася...

Ён пакінуў кабінет. Я перачытваў зробленыя запісы. Як усё ж падобны калгасныя праблемы. Цяжка вёсцы. Нешта вырашыць можна. Але, глядзіш глабальна, нічога добрага не прадбачыцца. Той жа калгас «Звязда» здаўна моцная гаспадарка. Адметнасць — вырошчванне лёну. Ёсць збыт. А вось з разлікамі бяда. Няма ў заводаў грошай. А бартэр, як ні круці, іх не замяніць. Ды што там лён! Мясцовае РАПП не разлічылася нават за леташнюю бульбу!

Альбо цэны на ялавічыну. Вядома, яны павінны быць большымі, чым на свініну. Але ж не на 60 працэнтаў!

Дарэчы, зноў пра заробак. Даяркі ў калгасе атрымліваюць болей за ...старшыню на 10—15 працэнтаў. Ад двух да двух з паловай мільёнаў. Крыху менш — трактарысты і вадзіцелі.

Ці возьмем пенсіянераў. На 2 тысячы працуючых тут іх амаль 400 чалавек. Хто дапаможа? Вядома ж, калгас. А гэта зноў выдаткі.

На тэрыторыі калгаса я быў і раней. Унікальныя мясціны, маёнтак Храптовіча. Вядома, як і паўсюль, амаль знішчаны. Ці графскія канюшні. Помнік. Ніхто не рэстаўруе. Аблюбавалі кінастудыі. І ў той дзень тут здымалі фільм. Разгаварыўся з работнікамі «Беларусьфільма». Кажуць: тут не першыя здымкі. А новы фільм будзе называцца «Шэльма». Пра каня. А ў мяне з'явілася грахоўная думка: а можа, няхай тут зноў былі б тыя ж канюшні? Хоць добраўпарадкавалі б будыніну...

Побач са Шчорсамі — Лаўрышава. Таксама мясціна, вядомая са старажытнасці. Разам з намі быў раённы архітэктар Аркадзь Заварын, які прыехаў сюды спецыяльна, бо 1 верасня тут будзе праходзіць свята беларускага пісьменства і друку. Да яго рыхтуюцца.

Многія ведаюць, што Лаўрышава — радзіма цяперашняга старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага. Ён нават нядаўна туды прывозіў амерыканскага пасла на Беларусі Кенета Яловіца, Кажуць, таму вельмі спадабалася.

Ля вясковага калодзежа былая калгасніца «Звязды» Вольга Фамінічна КАЧАН

Лаўрышава — таксама радзіма і Кастуся Качана, выдатнага беларускага мастака. У час камандзіроўкі мы наведалі ягоную хату. На шчасце, ён быў дома. Майстраваў нешта. Жыве ў Мінску, але тут праводзіць, мусіць, большую частку часу. Качан — мастак нібыта і традыцыйны. І разам з тым... Ёсць у ягоных карцінах тое, што мы называем патрыятызмам. Наваградак і ваколіцы, тое ж Лаўрышава і суседнія Нягневічы падаюцца несентыментальна, але так, што ў душы прачынаецца нешта невытлумачальнае. Я даўно сябрую з Кастусём. Не раз і пісаў пра ягоную творчасць. Таму цяжка не паўтарыцца. Але бачыў рэакцыю многіх сваіх калег на ягоных карціны. Тое ж невытлумачальнае пачуццё, што кранае патаемныя куткі душы. Зрэшты, словам напэўна немагчыма вытлумачыць ні музыку, ні жывапіс. Прысутнічае вечная недасканаласць гэтага тлумачэння...

— А ці можна да вас, старшынька, звярнуцца? — да нас падышла матуля мастака Вольга Фамінічна.

Пачала раіцца наконт нейкіх выплат. Міхась Фёдаравіч маўчаў. Пасля кажа:

— Лепш у сельсавеце перапытайце. Гэта іх кампетэнцыя.

Ніякай гульні ў «давернасць» перад журналістамі. Яму гэта непатрэбна. Шчыры — так, працавіты — так, крыху рэзкаваты — таксама. Але не крывадушны.



Мастак з Лаўрышава Кастусь КАЧАН

У той дзень не ўсе сенавалі на сваіх дзялках. Карміць жывёлу калгасную трэба штодня. Леанід Калала і Аляксандр Самайловіч (яны ўдвух на здымку) касілі ды вывозілі траву.

А мы са старшынёю аглядзелі палеткі з жытам, пшаніцай. Тады Міхась Фёдаравіч выказаў спадзяванне на ўраджай. Днямі я тэлефанаваў старшыні Навагрудскага райвыканкома Анатолю Лісу. Той кажа:

— Дажджы перашкаджаюць добрай уборцы. «Звязда» — не выключэнне.

Увогуле, як і паўсюль, там усе зараз толькі пра ўборку збожжавых і думаюць. Амельяновічу ж трэба яшчэ рыхтавацца да Дня беларускага пісьменства. Хоць разарвіся... А можа і сапраўды: мохам не абрастае толькі той камень, які коціцца? Бо, што ні кажыце, больш пачэсна і прыстойна працаваць, чым ляжаць на канапе ля тэлевізара, як робяць многія гараджане. Зямля ж такіх аднойчы не прымае. Яна многае даруе, акрамя абыякавасці. Дзякуй Богу, гэтага ў калгасе «Звязда» няма. Тут — гаспадары. Як у вядомым вершы: «На гэтай зямельцы ўсе мы не госці...»

**Міхась ТАЛОЧКА.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



Здымкі фільма «Шэльма»

## «ЗВЯЗДА» КІРУЕ ДА САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА

**Ужо шмат гадоў па маршруту Мінск—Санкт-Пецярбург ходзіць цягнік «Звязда». Так, гэта назва з'явілася ў гонар нашай газеты. У святочны дзень грэх было не напісаць пра ягоных работнікаў.**



Зарабляюць тут някепска. Тая ж правадніца — крыху больш за мільён.

Па словах начальніка цягніка Ігара Вяраксы, кантынгент пасажыраў розны. «Чаўнакоў» стала менш. Найчасцей едуць камандзіраваныя альбо да радні. Кошт купэйнага білета — прыкладна трыста тысяч. Але, улічваючы недахват у людзей сродкаў, кіраўніцтва чыгункі пайшло на ўвядзенне агульнага вагона, дзе кошт білета — да ста тысяч.

Ні для кога не сакрэт, што пасажыры задаволены працай беларускіх брыгад. Найперш з-за наладжанай дысцыпліны, ветлівага абыходжання.

— Зразумейце — калі чалавек даехаў добра, то пра гэта не прыгадвае, — разважаў Ігар Міхайлавіч. — Варта нечаму здарыцца — адразу прэтэнзіі. А ўвогуле бывае няўцям, чаму людзі такія запалоханыя, абыякавыя. Побач будзе дэбашырыць нягеглы хуліган, а здаравенныя мужыкі робяць выгляд, нібы нічога не здарылася. Зрэшты, як і ва ўсім грамадстве.

Праца на дарозе — цяжкае выпрабаванне. Не кожны можа справіцца. Шмат хто звальняецца. Альбо яго звальняюць... Апошнім часам такое было і на цягніку «Звязда». Пазбавіліся абыякавых, хапуг.

У дарогу трэба ўцягнуцца. Іншы лад жыцця — на колах. Дый псіхолагам трэба быць, каб прадбачыць розныя нечаканасці.

... Размаўлялі надоўга. Людзям трэба было працаваць. Галоўнае, каб шчаслівай была дарога. І вяртанне назад, дамоў...

**Міхась ТАЛОЧКА.**

**На здымку:** правадніцы «Звязды» Людміла РАДКЕВІЧ, Святлана ЖУК і Любоў КОВАЛЬ.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.35 | 20.54 | 15.19 |
| Віцебск – | 5.20 | 20.48 | 15.28 |
| Магілёў – | 5.25 | 20.43 | 15.18 |
| Гомель – | 5.29 | 20.33 | 15.04 |
| Гродна – | 5.53 | 21.06 | 15.13 |
| Брэст – | 5.58 | 21.03 | 15.05 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 6 жніўня.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве, Гомелі — 18—20, Мінску — 19—21, Гродне, Брэсце — 21—23 градусы.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца. Тэмпература ўначы — 8—13, удзень — 20—25 градусаў цяпла.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# «НОВАЯ «ЦАРСКАЯ ГАРЭЛКА» – РЫЖАЯ СМЕРЦЬ»

**Пад такім не самым вясёлым загалоўкам, але ён, на жаль, адпавядае рэаліям, у нумары за 25 ліпеня «Звязда» змясціла публікацыю на вельмі балючую тэму: як ліквідаваць тую «пражавелую бомбу», якую нам пакінула расійская армія, — шматлікія вялізныя цыстэрны са страшэнным для ўсяго жывога і нежывога «знішчальнікам» — ракетным акісляльнікам тыпу меланж.**

**Праблема, зразумела, самая шматпланавая. У яе вырашэнні, акрамя Беларускага інстытута радыяцыйнай бяспекі («Белрад»), дырэктар якога В. Несцярэнка і даў тое першае інтэрв'ю па дадзенай тэматыцы, удзельнічаюць нямала іншых НДІ, арганізацый, міністэрстваў, ведамстваў. Адразу скажам: не ўсе іх кіраўнікі, іншыя адказныя асобы згадзіліся кантактаваць з газетай, каб даць грамадству хоць нейкую інфармацыю. Што ўвогуле не здзіўляе.**

**Аднак і тыя факты, якія рэдакцыя мае на сённяшні дзень, ужо даюць магчымасць скласці даволі аб'ёмнае ўяўленне аб усёй сітуацыі ў цэлым. Прадстаўляем меркаванні некаторых з тых кіраўнікоў, вучоных, спецыялістаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да ўзнятай праблемы.**

**Дырэктар Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута, галоўны таксіколаг Мінаховы здароўя Віктар СТЭЛЬМАХ:**

## «ПАШПАРТЫ» ПРАДУКЦЫЯ ЎЖО АТРЫМАЛА, АЛЕ...»

Пачаць размову трэба, відаць, з фінансаў — яны ўсяму галава. Пасля таго, як летась урад прыняў праграму па ўтылізацыі меланжу, пачаліся, натуральна, пошукі грошай для фінансавання работ. Сродкі тады выканаўцам праграмы выдзелілі з рэзервовага фонду Прэзідэнта. Нашаму інстытуту — каля 400 мільёнаў рублёў, дакладней, на сённяшні дзень — 70 працэнтаў гэтай сумы, хоць мы завяршылі ўсе работы, прадугледжанныя планам. Выдзеліла летась на гэтую праграму 300 мільёнаў і Мінпрыроды. Таму фінансаванне, лічу, адносна яшчэ нядрэннае — у параўнанні, зразумела, з тым, як наогул сёння «фінансуецца» навука.

Думаю, нам пашанцавала ў тым, што па розных аспектах праграмы працуюць дастаткова кампетэнтныя спецыялісты, людзі з высокім пачуццём адказнасці. Напрыклад, з Навукова-тэхнічнага камітэта Мінабароны — арганізацыі-заказчыка. Дапамагае і тое, што да вырашэння праблемы падключылася Нацыянальнае агенцтва па кантролю і інспекцыях Мінабароны, якое стараецца знайсці фінансы за мяжой. Праўда, грошай пакуль ні з краін Еўропы, ні з ЗША не відаць.

Спачатку ўсе гэтыя работы былі закрытай тэматыкай, і першую спробу утылізаваць меланж зрабілі Беларускі агратэхнічны і Беларускі тэхналагічны універсітэты. Аднак на тыя ўгнаенні, якія тады атрымаліся ў выніку перапрацоўкі акісляльніка, нашы эксперты «дабро» не далі, паколькі ўзніклі пытанні па іх таксічнасці, іншых параметрах.

Пасля таго, як да выканання тэмы падключыўся інстытут «Белрад», сумеснымі намаганнямі з вайскоўцамі была створана эксперыментальная ўстаноўка па утылізацыі меланжу. На базе, што непадалёк ад вядомага ўжо Сяльца, у лютым гэтага года з чатырох тыпаў акісляльніка было атрымана 6 тон вадкіх мінеральных угнаенняў.

Гэтыя ўгнаенні павінны прайсці таксіколага-гігіенічнае вывучэнне, атрымаць пэўную класіфікацыю па таксічнасці, іншых відах небяспекі. Адначасова ў Беларускім НДІ глебазнаўства і аграхіміі праводзяць доследы па сваёй лініі. Восенню гэты інстытут абавязаны прадставіць нам узоры той сельгаспрадукцыі, якую вырасцілі на ўгнаеннях, атрыманых пасля утылізацыі акісляльніка.

Пасля ўсяго гэтага мы і павінны даць заключэнне: ці можна вырашчаную прадукцыю выкарыстоўваць у харчаванні, ці не назапашвае яна якія-небудзь шкодныя рэчывы, ці змяніўся састаў глебы пасля прымянення такіх угнаенняў?

Ёсць, аднак, прынцыповы момант: мы маем пакуль толькі доследную партыю прадуктаў перапрацоўкі меланжу, якая была зроблена ўвогуле, скажам так, грубавата — на той жа эксперыментальнай установцы. Таму гаварыць аб магчымасці выкарыстання ўгнаенняў мы можам толькі на пэўнай мяжы дапушчэння.

Сітуацыя на сённяшні дзень наступная: угнаенні, атрыманыя на эксперыментальнай устаноўцы, прайшлі таксіколага-гігіенічную экспертызу, усе чатыры віды іх атрымалі адпаведныя «пашпарты». Яны інстытутам ужо зацверджаны, прайшлі і ўзгадненне ў санітарнай службе рэспублікі. Гэта значыць, што выкарыстанне прадукту утылізацыі на эксперыментальных палетках у якасці менавіта эксперыментальных угнаенняў дазволена.

Яшчэ адзін вердыкт мы вынесем у лістападзе, калі НДІ глебазнаўства і аграхіміі прадставіць нам узоры сваёй эксперыментальнай прадукцыі. На гэтым будзе закончаны першы этап.

Другі этап звязваецца са стварэннем новай, ужо доследна-прамысловай, устаноўкі па перапрацоўцы меланжу. У наступным сезоне, калі усё будзе ісці нармальна, з прадукцыяй, атрыманай ужо на прамысловым агрэгаце, мы правядзём яшчэ адзін «раунд» выпрабаванняў. У прынцыпе, падкрэслю, самае поўнае і канчатковае рашэнне па нашаму колу пытанняў можа быць вынесена толькі тады, калі мы будзем мець узоры сельгаспрадукцыі, вырашчанай на ўгнаеннях, атрыманых менавіта на прамысловай установцы.

Усё складана і доўга, могуць сказаць. Аднак трэба мець на ўвазе: калі размова заходзіць пра выпуск новай прадукцыі на прамысловай установцы (а ў нас менавіта такі выпадак), калі ён ажыццяўляецца ў масавым маштабе, то ў сілу ўступаюць адпаведныя дзяржаўныя стандарты — ім гэтая прадукцыя павінна поўнасцю адпавядаць.

Выказваліся прапановы: каб не губляць час, то ці не лепш было б зноў запусціць у работу эксперыментальную ўстаноўку, якая ўжо дала прадукт? Якраз і нельга: сёння пакуль няма заключэння па якасцях апарата і прыменянай у ім тэхналогіі. Сапраўды, як установка пры рабоце ўздзейнічае на навакольнае асяроддзе, на здароўе чалавека? Як будуць вытрымлівацца гігіена працы тэхнічнага персаналу, іншыя санітарна-гігіенічныя нормы?

Такія даныя нашым інстытутам збіраюцца і апрацоўваюцца. Гэтая работа разлічана на год, на чатыры яго сезоны, бо ў кожнага з іх — свае прыродныя асаблівасці, якія могуць па-свойму ўплываць на ўзровень бяспекі тэхпрацэсу. Мы гатовы даць увесь аб'ём неабходных заключэнняў, як гэта і запісана ў праграме, у лістападзе.

Заключэнні могуць быць цалкам станоўчыя. Ці азначае гэта, аднак, што эксперыментальная ўстаноўка па утылізацыі меланжу — бяспечная і бясшкодная вытворчасць? Загадзя можна сказаць: поўнасцю бяспечнымі ўстаноўка і сама тэхналогія ніколі не будуць — вельмі ўжо агрэсіўны і небяспечны «матэрыял», з якім тут працуюць.

Але калі будуць захоўвацца правілы тэхпрацэсу, тэхнікі бяспекі, іншыя патрабаванні, то ў пэўнай ступені можна пагадзіцца з тым, што ўстаноўку па утылізацыі меланжу прымяняюць на палігоне ў Сяльцы.

**Дырэктар Беларускага НДІ глебазнаўства і аграхіміі, акадэмік ААН Беларусі, доктар сельскагаспадарчых навук прафесар Іосіф БАГДЗЕВІЧ:**

## «АДКАЗ НА ЎСЕ ПЫТАННІ ДАСЦЬ УРАДЖАЙ»

Пакуль з нашых эксперыментальных палеткаў ураджай не будзе ўбраны, уважліва прааналізаваны, з поўнай канкрэтнасцю сказаць нічога нельга. Можна паказаць толькі нашы чаканні.

Чакаць можна эфекту ад прымянення прадукту перапрацоўкі меланжу прыкладна такога ж, як і ад іншых вадкіх азотных угнаенняў. Лічым магчымым, што шкодных рэчываў у раслінах, «узнятых» на ўгнаеннях з меланжу, мы не знойдзем. Гэта гаворыцца таму, што іх вельмі скрупулёзна аналізавалі ў інстытуце яшчэ перад тым, як уносіць у глебу.

Заўважу, аднак: «новыя», умоўна назавём іх так, угнаенні не змогуць канкурыраваць з традыцыйнымі, бо ў чымсьці горшыя за апошнія. Гэта не дзіўна: яны даволі моцна разведзены вадой; інакш, наколькі мне вядома, не дазваляе рабіць тэхпрацэс, прыменены на эксперыментальнай устаноўцы.

Для эксперыментаў мы выбралі доследныя гаспадаркі ў Рэчыцкім і Мінскім раёнах. Заклалі сумесны дослед і з Беларускім агратэхнічным універсітэтам — працуем разам па дадзенай тэме на базе яго вучэбнай гаспадаркі «Ждановічы». Угнаенні з перапрацаванага меланжу прымянілі для вырошчвання самай звычайнай прадукцыі — сталовай бульбы, кармавых культур, ячменю, аўса, азімага жыта. Потым будзе даследавацца, напрыклад, не толькі зерне, але і салома. І калі нічога шкоднага ў зерні не акажацца, то гэтага ўвогуле хопіць для далейшых станоўчых высноў. Доследы плануем праводзіць два гады, бо кожны год характэрны сваімі ўмовамі надвор'я, іншай спецыфікай, а эксперымент павінен усё гэта ўлічваць.

Спадзяюся, што за гэты час іншыя выканаўцы праграмы, якія адказваюць за выраб угнаенняў, знойдуць магчымасць, як яны і абяцаюць, дабіцца большай канцэнтрацыі рэчыва ў канчатковым прадукце, бо сёння вельмі ж нятанна вазіць на палі лішнюю ваду.

Тут якраз дарэчы будзе падтрымаць думку, што корань праблемы — у эканоміцы праекта, прынятага ўрадам. Пасляховасць работы ўсіх удзельнікаў праграмы залежыць менавіта ад больш-менш рытмічнага фінансавання. Не толькі ад выдзялення пэўных сродкаў з рэзервовага фонду Прэзідэнта (адтуль частку работы інстытута якраз і аплацілі), але і ад фінансавання работ па лініі самой урадавай праграмы — як гэта і належыць, што называецца, «па правілах». Спрацуюць гэтыя правілы — і за наш участак работы я поўнасцю ручаюся.

Калі ж гаварыць пра вынікі работы інстытута па дадзенай тэме менавіта ў гэтым годзе, то з упэўненасцю можна будзе сказаць (падкрэслю яшчэ раз) толькі пасля збору, скрупулёзнай апрацоўкі і даследаванняў сёлетняга ўраджаю — у кастрычніку.

**Начальнік аддзялення Навукова-тэхнічнага камітэта Міністэрства абароны палкоўнік Уладзімір МАРЭЦКІ:**

## «ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЯ ЎСТАНОЎКА ПАВІННА ЯШЧЭ ПРАЦАВАЦЬ»

Пачну з крытычных заўваг у адрас аўтараў публікацыі пра меланж — «рыжую смерць». Справа ў тым, што колькасць складоў з ракетным акісляльнікам яны ўказалі не зусім дакладна. Такіх баз у Беларусі ўсяго чатыры.

Калі ў нас яшчэ знаходзіліся войскі Расіі, то гэта былі ў асноўным базы часцей далёкай авіяцыі, дзе ў невялікіх складах і захоўвалася па 200—400 тон меланжу. Пасля вывазу гэтых аб'ектаў з тэрыторыі Беларусі колькасць ракетнага акісляльніка з 10 тысяч скарацілася да 8 тысяч тон.

Па пэўных прычынах сёння магу назваць толькі дзве «кропкі», дзе цяпер захоўваецца меланж, — гэта вёска Сялец і пасёлак Пагранічны Бераставіцкага раёна.

Затое што ў змешчаным інтэрв'ю праўда дык праўда: меланж — вельмі небяспечнае рэчыва. Навукова-тэхнічны камітэт не займаецца эксплуатацыяй рэзервуараў з акісляльнікам (наша задача — распрацоўка метадаў яго утылізацыі), таму аб'ектыўна ацаніць тэхнічны стан ёмістасцей мне цяжка. Аднак магу сказаць, што па выніках даследаванняў, праведзеных на базе ў Сяльцы Беларускім НДІ сангігіены па заказу НТК Мінабароны, устаноўлена: канцэнтрацыя вокіслу азоту ў паветры ў тэхнічнай зоне перавышае дапушчальную ў 1,3—1,4 раза.

Для утылізацыі ракетнага акісляльніка была створана эксперыментальная ўстаноўка, над якой у асноўным працавалі наш НТК, інстытут «Белрад» і адно з ваенных прадпрыемстваў Беларусі. Зімой гэтага года ў Сяльцы атрымалі на ёй 6 тон угнаенняў. Цяпер у рабоце ўстаноўкі — перапынак (ён быў прадугледжаны праграмай) — да атрымання канчатковага заключэння па прадукту утылізацыі, ацэнкі яго экспертамі з НДІ сангігіены, а таксама НДІ глебазнаўства і аграхіміі.

Але ўжо і цяпер мы пераканаліся: тэхналогія вытворчасці вадкіх мінеральных угнаенняў з меланжу на практыцы «працуе», яна рэальная, а прадукт аказаўся ўвогуле нядрэнным.

Па параметрах самой устаноўкі можна сказаць наступнае. Калі НДІ сангігіены правяраў яе работу сёлетняй зімой, то яго спецыялісты пераканаліся, што шкоднага ўздзеяння на навакольнае асяроддзе яна не аказвае. Патрабаванні ж інстытута аб неабходнасці правесці даследаванні работы ўстаноўкі за чатыры сезоны года цалкам правамерныя.

Апускаючы шматлікія дэталі, можна зрабіць выснову: эксперыментальная ўстаноўка павінна быць «уключана» хоць на непрацяглы час у кожны з трох сезонаў, якія яшчэ не ахоплены эксперыментам. А для гэтага ўжо сёння патрэбны грашовыя сродкі.

Бліжэйшыя задачы наступныя: для мэтаў бяспекі неабходна як мага хутчэй вызваліць ад акісляльніка хоць бы адзін рэзервуар. Вельмі важна таксама дапрацаваць усе параметры эксперыментальнага агрэгата, каб наступная, ужо доследна-прамысловая, устаноўка была выканана на самым высокім тэхналагічным узроўні.

**Начальнік упраўлення грамадзянскай абароны Галоўнага ўпраўлення камандуючага ўнутранымі войскамі Міністэрства ўнутраных спраў Уладзімір МІЦКЕВІЧ:**

## «РАТАВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ, КАЛІ ЎЗНІКНЕ ТАКАЯ НЕАБХОДНАСЦЬ, БУДЗЕМ ПА ЗАГАДЗЯ ПАДРЫХТАВАНЫХ ПЛАНАХ»

Газетны матэрыял аб праблемах з меланжам — рэч, зразумела, патрэбная. Унясу, аднак, адзін нюанс: з майго пункту погляду, гэтае інтэрв'ю, можа, нават... і спазнілася. Кажу так зусім не таму, што хачу быць арыгінальным.

Калі камусьці невядома, то паведамлю: яшчэ з 1995 года падобнае пытанне па лініі грамадзянскай абароны мы ўзнімалі на самых розных узроўнях. Тады выявіліся факты, якія мы выкладалі ў дакладных запісках і міністру ўнутраных спраў, і ў Савет бяспекі, — аб выкарыстанні камерцыйнымі структурамі ракетнага паліва ў якасці ...паліва для кацельняў. Толькі ў Паставах на складах прадпрыемстваў захоўваліся многія дзесяткі тон гэтага «ўдарнага паліва».

Калі ўжо мы ўзнялі гэтую праблему, то зрабілі потым і наступны крок — склалі схему дыслакацыі вайсковых часцей, якія захоўвалі КРП (кампаненты ракетнага паліва). Зрабілі абследаванне ўсіх складоў, баз, гаспадарак, у тым ліку і ў Сяльцы.

Потым прыступілі да пытанняў адпрацоўкі ўзаемадзеяння з Міністэрствам абароны. У рэшце рэшт гэтыя захады з усімі змяненнямі і дапаўненнямі ўвасобіліся ў «План узаемадзеяння органаў кіравання і сіл дзяржаўнай сістэмы па папярэджанню і дзеяннях у надзвычайных сітуацыях». План быў узгоднены трыма міністрамі — унутраных спраў, абароны, па надзвычайных сітуацыях і ў красавіку гэтага года зацверджаны.

Такім чынам, мы вызначылі сілы і сродкі Грамадзянскай абароны, якія прыцягваюцца да лакалізацыі і ліквідацыі аварыйных сітуацый пры захоўванні, транспарціроўцы і знішчэнні ракетнага паліва і яго кампанентаў. «План узаемадзеяння...» маецца ўсюды на месцах. Ён узгоднены з камандзірамі вайсковых часцей. Канкрэтныя мерапрыемствы па кожнаму небяспечнаму аб'екту закладзены ў планы абласных і раённых штабоў ГА.

Наша служба такая, што заўсёды прыходзіцца рыхтавацца, што называецца, па максімуму, да самага складанага. Што ў гэтым плане можа адбыцца на базе ў Сяльцы?

Уявім, што ад старасці развалілася цыстэрна з ядавітым меланжам і адбылося яго разліццё. Супраць гэтага вакол рэзервуараў узведзены грунтавыя валы — на вялікую плошчу рэчыва разліцца не зможа. Але злавесны «рыжы шлейф» ад вокіслу азоту, зразумела, з'явіцца.

У дзеянне ўступіць зацверджаны план, па якім усе адказныя асобы і спецыялісты дакладна ведаюць, каму і што рабіць, — і камандзір вайсковай часці, і кіраўніцтва райвыканкома, райаддзела ўнутраных спраў, і мясцовая медыцына, і, зразумела, штаб ГА. Гукавая сірэна і радыё перададуць насельніцтву паведамленне. На месцах, зноў жа па плану, людзей збяруць у пэўных пунктах, раздадуць ім індывідуальныя сродкі абароны і, калі трэба, эвакуіруюць на нейкі час. Так мы бачым развіццё падзей, калі сапраўды адбудзецца ЧП з-за разліцця меланжу.

### *НЕАБХОДНЫ КАМЕНТАРЫЙ*

Чытачы, напэўна, заўважылі, як па-добраму некаторыя ўдзельнікі ўрадавай праграмы па утылізацыі меланжу адзываюцца аб супрацоўніках арганізацыі-заказчыка — Навукова-тэхнічнага камітэта Мінабароны. Мала таго, гавораць, што спецыялісты НТК — не проста заказчыкі, але рухавікі гэтай дзяржаўнага рангу работы. Таму дзіўнай здаецца інфармацыя, якая апошнімі днямі прыйшла ў рэдакцыю: той самы палкоўнік У. Марэцкі ўжо... здае тэму утылізацыі меланжу, поўнасцю пераключыўся на іншую тэматыку. Але аб гэтым «цудзе» — крыху пасля.

Заўважылі, відаць, чытачы і тое, што практычна ўсіх удзельнікаў імправізаванага «круглага стала» хвалюе праблема далейшага фінансавання работ. 18 мільярдаў рублёў павінна быць выдзелена на выкананне ўрадавай праграмы, але ні пра якую хоць бы частку гэтай сумы з Міністэрства фінансаў нічога не чуваць. Затое начальнік аддзела фінансавання надзвычайных мерапрыемстваў Мінфіна У. Бельскі нядаўна заявіў у адкрытым друку: «У рэспубліцы дастаткова сродкаў, каб пераадолець вынікі надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару». Як тады растлумачыць гэтую «нелюбоў» да ўрадавага праекта?

Цяпер давайце падлічым, калі змогуць навукова-даследчыя інстытуты правесці ўсе неабходныя даследаванні па якасці саміх угнаенняў, сельгаспрадукцыі, якая на іх вырошчваецца, характарыстыках эксперыментальнай устаноўкі? На гэта, калі няма фінансавання, спатрэбяцца ўжо не «сезоны», а гады і гады. А на праектаванне і выраб доследна-прамысловай устаноўкі трэба тады «адпусціць» ужо, мабыць, цэлае дзесяцігоддзе, ці не так?

Затое можна, аказваецца, актывізавацца і вызначыцца зусім на іншым «фронце». І вось ужо ў Міністэрстве абароны прымаюць рашэнне: адхіліць Навукова-тэхнічны камітэт ад праблемы, якую той пасяхова вёў, бо меў для гэтага інтэлектуальныя сілы. Цяпер ёю будзе займацца новастваораны навукова-тэхнічны цэнтр службы гаруча-змазачных матэрыялаў тылу Узброеных Сіл. Дык там жа сядзяць спецыялісты, якія ўсё жыццё пералівалі і развозілі салярку! Можна толькі здагадвацца, дзеля чаго закручваюцца падобныя «рэбусы».

Можна паводзіць сябе і іншым чынам — наогул сядзець ціха, «не высоўвацца». Як гэта робяць, напрыклад, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. А яно, як мы памятаем, узгадняла ўжо вядомы «План узаемадзеяння...» Вельмі не хацелася начальніку ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях гэтага міністэрства А. Панамарову ўголас расказаць грамадскасці: а што ж робяць з нагоды праблемы меланжу ў яго падраздзяленні? Спаслаўшыся на кіраўніцтва самога міністэрства, пераадрасаваў запыт да сваіх калег — у Праматамнагляд. Славутыя ж «атамшчыкі» без асаблівай сарамлівасці прызналіся ў... сваёй некампетэнтнасці.

... У «славутым» цяпер Сяльцы з тых самых злавесных пражавелых рэзервуараў з іх шчылінамі і дзіркамі паціху выпараюцца «рыжыя хвосцікі». Але ж там няспраўныя і засцерагальныя клапаны, кантрольная апаратура. А калі ў гарачы дзень ціск унутры бакаў стане такім, што стары метал не вытрымае? У МНС павінны ведаць, якое вызначэнне маюць падобныя выпадкі, старацца і ўмець іх прадугледжваць. Для гэтага яно, між іншым, і створана.

Застаецца толькі спадзявацца: калі што якое, то планы Грамадзянскай абароны сапраўды спрацуюць, як гэта нам абмалявалі. Тут, праўда, просіцца на святло адна дэталька: ва ўсе разлікі ГА пры ліквідацыі такіх магчымых сітуацый закладваецца той ці іншы працэнт так званых «лятальных зыходаў». Ці трэба тлумачыць значэнне тэрміна? Не дай Бог правяраць на падобнай «практыцы», наколькі надзейна нясуць варту ўсе нашы адпаведныя службы.

**Падрыхтаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

